*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# Наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 7(444) 16 ЛЮТАГА 2000 г.

## НАЦЫЯНАЛЬНЫ НАВУКОВА-АСВЕТНІЦКІ ЦЭНТР ІМЯ Ф.СКАРЫНЫ ПРЫ МІНІСТЭРСТВЕ АДУКАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Рэспубліка Беларусь, 220050, г.Мінск, вул.Рэвалюцыйная, дом 15, 2-гі паверх
Тэлефон: (017) 220 51 57, 220 76 04 Тэлефон / факс: (017) 220 93 50
E-mail: mab@lingvo.minsk.by

**ТБМ імя Ф.Скарыны**

Паведамляем, што Нацыянальны навукова-асветніцкі цэнтр імя Ф.Скарыны накіраваў ліст міністру адукацыі, дзе сказана наступнае.

Ідэя стварэння Беларускага нацыянальнага універсітэта, пабудаванага на беларускіх культурна-адукацыйных традыцыях і хрысціянскіх каштоўнасцях, універсітэта, дзе ўсе прадметы выкладаліся б па-беларуску, на сучасным этапе набывае асаблівую актуальнасць, аб чым сведчаць і вынікі апошняга перапісу насельніцтва.

У адпаведнасці з дамінуючымі грамадскімі тэндэнцыямі было б мэтазгодна, каб менавіта Міністэрства адукацыі ўзялося за ажыццяўленне гэтага перспектыўнага і аб'ектыўна неабходнага праекта.

Са свайго боку Нацыянальны навукова-асветніцкі цэнтр імя Ф. Скарыны мог бы стаць базавай установай па распрацоўцы адпаведнай канцэпцыі.

Прапануем загадам Міністра стварыць рабочую групу (у выглядзе часовага навуковага калектыву з адпаведным фінансаваннем), якая падрыхтавала б неабходную дакументацыю, напрыклад, да траўня 2000 г.

Лічым немэтазгодным стварэнне Беларускага нацыянальнага універсітэта праз рэарганізацыю ўжо існуючай ВНУ, бо:

1.Гэта непазбежна выкліча грамадскі канфлікт, звязаны з неабходнасцю рэзкага змянення існага статусу-кво пэўнай ВНУ. што прывядзе да міграцыі кадраў, увядзення іншых спецыяльнасцяў і спецыялізацый і г.д. – гэта значыць стварэнне БНУ (які плануецца як элітны, малакалькасны універсітэт з арыгінальнай канцэпцыяй) адбудзецца праз фактычную ліквідацыю ўжо існай ВНУ, што недапушчальна.

2. Такі падыход можа звесціся да прафанацыі ідэі, фармальнай справаздачнасці, што не вырашае праблему.

Фінансаванне ВНУ можна было б ажыццявіць часткова за кошт змяншэння кантрольных лічбаў прыёму ў іншыя ВНУ.

У выпадку, калі Міністэрства ўсё ж прыме рашэнне аб пераўтварэнні аднаго з універсітэтаў у Беларускі нацыянальны, было б канкрэтным узгадніць гэтае пытанне і даручыць яго распрацоўку кіраўніцтву адпаведнай ВНУ.

З павагай.

**Дырэктар Л. Уладыкоўская-Канаплянік.**

## "Наша слова" чакае вашай падтрымкі!

Шаноўныя чытачы і падпісчыкі нашай газеты! Я звяртаюся да Вас з просьбаю аб дапамозе. Зараз выданне "Нашага слова" напярэдадні свайго 10-гадовага юбілею знаходзіцца пад пытаннем. Вы ведаеце, што вось ужо 2,5 гады "Наша слова" выходзіць за народныя грошы і ніякай падтрымкі з боку ўлады не мае.

У пачатку гэтага года са з'яўленнем новага падатку на дадатковую вартасць кошты на выданне газеты значна выраслі і каб выжыць, нам трэба мець 5 тысяч падпісчыкаў – роўна столькі, колькі сяброў налічвае зараз наша з Вамі шаноўная арганізацыя. Калі б кожны сябра ТБМ выпісаў сваю газету, то яе выхад быў бы заўжды гарантаваны.

Але зараз, на жаль мы маем толькі 1600. Такая вось сумная лічба. І гэта пасля таго, як многія кіраўнікі нашых буйных арганізацый, выкладчыкі ВНУ, прадпрымальнікі, нашыя пісьменнікі, настаўнікі і журналісты запэўнівалі мяне, што дапамогуць арганізаваць падпіску на 1 квартал гэтага года.

Дарэчы, мы спецыяльна зрабілі кошт падпіскі на "Наша слова" самым танным сярод іншых газетаў. Таму, шаноўныя сябры, адыйдзем ад прыгожых словаў і лямантаў аб знікненні беларушчыны. Пачнем за яе змагацца штодня. Калі кожны з нас падпіша адзін нумар "Нашага слова" сваім родным ці сябрам, у сваю школу, суседнюю бібліятэку ці дзіцячы садок, то справы нашыя значна палепшацца.

У сваю чаргу Сакратарыят ТБМ падпісаў на 4 месяцы (пачынаючы з сакавіка) усе раённыя бібліятэкі Беларусі (а іх 21), якія не знайшлі грошаў на "Наша слова", 45 вясковых школ, якія ўзялі ўдзел у конкурсе ТБМ і ТБШ на лепшую беларускую вясковую школу і 17 вясковых школ Бешанковіцкага раёна Віцебскай вобласці на другі квартал г.г.

Цяпер справа за Вамі, шаноўныя сябры! Бярыце нажніцы, выразайце падпісны квіток і – уперад, на пошту. . .

Усе тыя, хто дашле ці прынясе ў сядзібу ТБМ (Румянцава 13) квіток, ці яго копію на падпіску на "Наша слова" на другі квартал, бясплатна атрымае добрую беларускую кніжку і каляндарык.

З павагай да Вас усіх.

**Старшыня ТБМ Алег Трусаў.**

## Новае выданне ТБМ

Камісія ТБМ па тапаніміцы і гістарычнай сімволіцы выдала каляндарык на 2000 год з выявай беларускай вайсковай сімволікі XX стагоддзя накладам 1000 асобнікаў.

Тыя, хто жадае атрымаць гэты каляндарык, просім звяртацца на адрас: г. Менск, вул Румянцава, 13, ТБМ, тэл.284-85-11.




14.01.2000 г. № 05-10/168
на —— ад ———

*Старшыні ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" Трусаву А.А. 220005, г.Менск, вул. Румянцава, 13 на № 12 ад 5.01.2000 г.*

Паважаны Алег Анатольевіч!

Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь разгледзела Вашу прапанову і вырашыла выпусціць у 2000 годзе мастацкі немаркіраваны канверт, прысвечаны класіку беларускай літаратуры Ф.Багушэвічу.

*Намеснік міністра*
*М.П.Малочка*

### У якасці інфармацыі

Суполка ТБМ імя Фр. Скарыны г.Бабруйска і суполкі ТБШ запрашаюць усіх ахвочых бабруйчан і гасцей горада на лекцыі па гісторыі, этнаграфіі і фальклоры. Лекцыі чытае доктар навук, прафесар Аляксей Міхайлавіч Ненадавец.

Месца правядзення ДК ФанДОК", вул. Куйбышава 59, кожную 3-ю сераду месяца, пачатак а 18-ай гадзіне.

Ф. СП - 1

**Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь**

**АБАНЕМЕНТ** на газету / часопіс **63865** (індэкс выдання)

**НАША СЛОВА**
(назва выдання)

На 2000 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | X | X | X | | | | | | |

Куды ______ (паштовы індэкс) ______ (адрас)

Каму ______ (прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА**

| ПВ | месца | літар |
|---|---|---|
| | | |

на газету / часопіс **63865** (індэкс выдання)

**НАША СЛОВА**
(назва выдання)

| Кошт | падпіскі | 300 руб. | Колькасць камплектаў | 1 |
|---|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | руб. | | |

На 2000 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | X | X | X | | | | | | |

Куды ______ (паштовы індэкс) ______ (адрас)

Каму ______ (прозвішча, ініцыялы)



№ 7 (444) 16 ЛЮТАГА 2000 г. Наша слова

# Дарагія землякі!

Даведалася праз Вашу газету пра ініцыятыву ТБМ аб стварэнні Беларускага нацыянальнага універсітэта, аб наданні вуліцам Менска імёнаў слынных сыноў і дачок краіны.

Мяркую, што я маю права падаць свой голас у падтрымку гэтых ініцыятыў, бо мая Радзіма – Беларусь, я галоўную, большую частку свайго жыцця была грамадзянкай Беларусі, і цяпер адчуваю сябе такою. Прынамсі, пашпарт у мяне яшчэ СССР, значыць – і Беларусі.

Крыху пра сябе. Нарадзілася 85 год таму ў мястэчку (зараз горад) Крычаве. У 1922 годзе пачала вучыцца ў школе імя Чарвякова. Настаўніка беларускай мовы мы звалі дзядзька Кастусь, настаўніцу прыродазнаўства – цётка Надзя. Гэта былі маладыя настаўнікі.

Першы вялікі беларускі твор, з якім я пазнаёмілася, была паэма Міхася Чарота "Босыя на вогнішчы". Я яе вывучыла напамяць. Цяпер думаю, што не так ужо добра я зразумела змест – спадабалася рытмічнасць, своеасаблівае гучанне радкоў твора.

Мястэчка наша было беларуска – яўрэйскае і мова беларуская была для нас сваёй мовай.

Далей я вучылася ў Мсціслаўскім Белпедтэхнікуме, дзе мы ўсе размаўлялі ў асноўным па-беларуску; пісалі мы, кіруючыся правапісам Тарашкевіча. Ніякіх цяжкасцяў мы не адчувалі. Між іншым, я і цяпер, каб перачытала правілы граматыкі, здалела б пісаць згодна з яго правапісам.

У 1933 г. пасля заканчэння педтэхнікума нас накіроўвалі на працу ў розныя раёны Магілёўскай вобласці і ў Смаленскую вобласць, дзе было многа беларускіх школ.

Тут вось і пачаўся пераход на новы правапіс. Тлумачэнне было такое: зрабіць больш лёгкім авалоданне беларускай граматыкай і наблізіць яе да рускай. У гэты ж час загаварылі і пра нацдэмаў, якія выдумляюць незразумелае для беларусаў словы. Мы, маладыя настаўнікі, не ўсё разумелі ў гэтых справах. Падчас падрыхтоўкі да экзаменаў прыходзілі загады зняць з білетаў пытанні па творчасці таго ці іншага пісьменніка. Пры гэтым не давалася ніякіх тлумачэнняў. Што сказаць вучням? Гаварылі адно – каб ім было менш вучыць. Мы ўжо чулі пра ворагаў народа, а самі не знаходзілі варожасці і здрадніцтва ў іх творах, якія мы вывучалі ў школе. Сталі знікаць па невядомых прычынах лепшыя студэнты старэйшых курсаў і некаторыя настаўнікі. Пачалася русіфікацыя. У першым класе вучні чыталі: а-и-с-т, а не казалі: бусел (бо малюнак падказваў слова).

У 1945 г. пасля заканчэння БДУ паехала працаваць у Пінскі настаўніцкі інстытут, потым, пасля яго пераводу ў Брэст, да самай пенсіі выкладала беларускую мову ў школе. Неяк прачытала ў "Нашым слове" артыкул М.Пузіноўскага пра беларускую мову, пра здзекі над ёй: "... і яна ў школе вывучалася як звычайны прадмет". Не, нават і так не заўсёды было! Пэўны час беларускую літаратуру вымушаны былі выкладаць па-руску. Большай абразы, злой насмешкі над родным словам прыдумаць было нельга. Праз такую абразу, праз усведамленне другароднасці свайго прадмета прайшоў кожны настаўнік майго часу.

Вось таму я зараз з тымі, хто змагаецца за беларускую мову, за адраджэнне беларускай культуры. Жадаю поспехаў ва ўсіх вашых высакародных справах!

*Марыя Затчанаўна Сафро.*
*142292 Маскоўская вобл.,*
*Расія, г. Пушчына. Серпухаўскага р-на.*
*Мікрараён "Г", дом 30, кв.49*

# ЗВАРОТ

## да настаўнікаў, работнікаў сістэмы адукацыі Беларусі

Мы, настаўнікі Пухавіцкага раёна, сабраўшыся на ўстаноўчы сход па стварэнні суполкі Таварыства беларускай школы, звяртаемся да сваіх калег.

Мы заклапочаны становішчам беларускай мовы ў Беларусі і заклікаем настаўніцкую грамаду, кіраўнікоў сістэмы адукацыі павярнуцца да праблем беларускай мовы, гісторыі, культуры, выхавання нацыянальнай годнасці.

У Беларусі дзве дзяржаўныя мовы – беларуская і руская. Але рэальна дзяржаўнай мовай з'яўляецца практычна адна – руская. На ёй размаўляюць дзяржаўныя чыноўнікі, працуе суд, выдаецца большасць дзяржаўных газет. Бацькі выбіраюць рускамоўную адукацыю для сваіх дзяцей, бо беларуская мова не патрэбна ні ў якіх дзяржаўных установах, бо няма ніводнай ВНУ, тэхнікума на беларускай мове. Прычына такога ненармальнага становішча – нізкая нацыянальная свядомасць беларусаў, што ёсць вынікам трагічнага гістарычнага лёсу нашага народа.

Наша агульная думка такая: мове роднай не акрыяць, пакуль беларускай не стане сістэма адукацыі.

Мы звяртаемся да Міністэрства адукацыі РБ. Мы лічым, што для забеспячэння рэальнага двухмоўя ў сістэме адукацыі, трэба ажыццявіць наступныя захады:

1. Стварыць на Беларусі Нацыянальны універсітэт – як першы крок для стварэння нацыянальнай вышэйшай сістэмы адукацыі.
2. Ва ўсіх вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных установах стварыць два патокі – беларускамоўны і рускамоўны.
3. Аднавіць даплаты выкладчыкам школ, тэхнікумаў, ВНУ, якія вядуць свае прадметы па-беларуску.
4. Забяспечыць школьныя бібліятэкі неабходнай літаратурай – мастацкай, навуковай, даведачнай, метадычнай – на беларускай мове.
5. Выкладанне рускай мовы ў беларускамоўнай школе і беларускай мовы ў рускамоўнай школе ажыццяўляць у падгрупах.

Ад нас, школьных настаўнікаў, шмат што залежыць. Кожны на сваёй працы і ў побыце можа паказаць прыклад ужывання роднай мовы. Мы можам адраджаць народныя абрады, выхоўваць у людзей веру, што беларуская мова мае ўсе прыродныя якасці і правы, каб быць гаспадыняй на зямлі Беларусі.

Удзельнічайце, калі ласка, у абвешчаным ТБМ і ТБШ агульнабеларускім конкурсе на лепшую беларускую вясковую школу, далучайце свае галасы да патрабавання аб адкрыцці Нацыянальнага універсітэта.

Памятайма: Сацыяльна-эканамічная сістэма, палітычны лад, кіраўнікі – усё гэта часовае, зменлівае, а мова – вечная (калі мы дапаможам ёй выжыць). Пакуль жыве мова – жыве нацыя, жыве краіна.

Мы верым, што Беларусь стане сапраўды дэмакратычнай, суверэннай, багатай, прыгожай еўрапейскай краінай. Дык наблізім сваёй працай гэтую будучыню.

Прыняты на сходзе настаўнікаў Пухавіцкага раёна 8 студзеня 2000 г.

**г. Мар'іна Горка.**

# Інфармацыя для людзей, якія змагаюцца за належнае месца беларускай мовы ў сваёй Бацькаўшчыне

Апошнім часам відавочнай праявай у грамадскіх зносінах стала дыскрымінацыйнае стаўленне да носьбітаў беларускасці. Сведчу пра гэта як чалавек і грамадзянін, які нарадзіўся беларусам, вывучыўся ў беларускай школе і мае гонар і шчасце гаварыць па-беларуску ў сваёй краіне. Сведчу – каб тым самым выказаць рашучы пратэст супраць антыбеларускай і антыбеларускамоўнай палітыкі ў дзяржаве, што ёсць прычынай названай праявы.

Я маю колькі прыкладаў з уласнага досведу, калі службовыя асобы або абслуговы персанал мала што не адказваюць па-беларуску тады, калі да іх першы звяртаешся на сваёй роднай дзяржаўнай мове, але зняважліва патрабуюць гаварыць па-руску.

Так, адмовілася размаўляць са мной сакратарка адной з прыёмных Міністэрства адукацыі, калі я нагадаў пра яе абавязак захаваць службовую этыку – хоць бы з пачуцця тактоўнасці пераходзіць на беларускую мову, калі менавіта на ёй звяртаецца наведнік.

У Саюзе журналістаў Беларусі, куды я днямі патэлефанаваў, з вуснаў супрацоўніцы пачаў патрабавальны вокрык перайсці на рускую мову, бо па-беларуску яна дрэнна разумее.

А работніцу 88-га аддзялення сувязі Менска раздражала слова "звычайны". "Вы что, не можете сказать, чтобы все понимали?" – папракнула яна, не ўсвядамляючы ўласнага невуцтва і браку элементарнай культуры.

Такія вось апошнія выпадкі, а было ж іх нямала – крыўдных, нахабных, абразлівых.

Я ўважыў за свой абавязак сказаць Вам пра гэта, каб не змаўчаць, не скінуць у бяздонную скрыню сваю крыўду, а падаць голас на абарону беларускіх святыняў.

Выказваючы пратэст, я хачу нагадаць А. Лукашэнку ягоныя абразлівыя выказванні ў бок беларускай мовы на пачатку свайго кіраўніцтва дзяржавай. Што наша беларуская мова, маўляў, не такая развітая, каб на ёй выказвацца. Пасля такога няўзважанага прастарэкання палітык мусіў бы скласці паўнамоцтвы і замольваць свой грэх; ён жа працягваў таптаць нашы нацыянальныя ідэалы. І вось вынік – праявы моўнай дыскрымінацыі і напаўзанне агрэсіўнага рускамоўнага элементу ва ўсіх сферах грамадскага жыцця.

***Валеры Дранчук, журналіст, выдавец, г. Менск.***

# Дзяржаўнае двухмоўе спрыяе русіфікацыі

У студзені споўнілася дзесяць гадоў "Закону аб мовах у Беларускай ССР", які быў прыняты ў 1990 годзе Вярхоўным Саветам БССР. У ім распрацавана праграма развіцця і пашырэння беларускай мовы на працягу дзесяцігоддзя. Яна была аб'яўлена адзінай дзяржаўнай, а расійская мова выконвала функцыю міждзяржаўных і нацыянальных зносін, што адпавядала рэчаіснасці і гістарычнай справядлівасці. Тым самым была не толькі спынена русіфікацыя ў Беларусі, але распачата вялікая праца па вяртанню да каранёў сваіх грамадзян тытульнай нацыі.

Як вядома, у першыя гады Закон аб мовах выконваўся паспяхова, але ў апошнія стан беларускай мовы вельмі пагоршыўся. Кіраўнік краіны пажадаў ураўнаважыць мовы і прапанаваў увесці двухмоўе. Асіміляваныя беларусы падтрымалі яго на рэферэндуме ў 1996 г. У выніку сфера ўжывання нашай мовы рэзка звузілася. У 1998 г. Закон аб мовах перапрацаваны і прыведзены ў адпаведнасць з дзейнай Канстытуцыяй. У ім узаконены статус расійскай мовы як роўнай з беларускай, а таксама замацавана права выбару адной з іх работнікамі ўсіх дзяржаўных і грамадскіх устаноў.

Найбольш адмоўныя змены адбыліся ў школах Рэспублікі. Міністэрства адукацыі і органы ўлады звычайна прыводзяць агульныя лічбы вучняў, якія вучацца на роднай мове, і яны адносна добрыя за кошт сельскіх школ і сярэдніх класаў (5-9) гарадскіх, бо дзеці ў іх пачыналі вучыцца ў гады ўздыму беларусізацыі. Рэальны малюнак і сумную перспектыву нашай мовы паказваюць першыя класы гарадскіх школ у апошнія гады. У Ашмянах у чатырох школах у 1996 г. былі адкрыты 10 беларускіх першых класаў (206 вучняў) і 3 расійскамоўныя – (81 вучань). У 1997 г. ужо 4 беларускія (83 в.) і 10 расійскіх – (230 в.); у 1998 г. толькі 3 беларускія (44 в.) і 12 расійскіх – (205 в.); у 1999 г. зноў 3 беларускія (45 в.) і 12 расійскіх – (280 вучняў). Вось гэта тая несуцяшальная стабілізацыя, пра якую гавораць у Мінадукацыі.

Вядома, бацькі карыстаюцца правам выбару мовы, але яны змушаны выбіраць расейскую, бо ўсе сярэднія і вышэйшыя навучальныя ўстановы працуюць на ёй. І хаця больш паловы абітурыентаў здаюць уступныя экзамены па-беларуску, але далей вучыцца на роднай мове не могуць. Вось чаму ТБМ імя Ф.Скарыны і свядомыя беларусы настойліва дабіваюцца адкрыцця ў Беларусі нацыянальнага ўніверсітэта. Стварэнне саюза Беларусі з Расеяй аб'ектыўна вядзе да абмежавання афіцыйнага ўжытку нашай мовы. Сённяшні антыбеларускі курс вышэйшай улады РБ праз дзяржаўнае двухмоўе спрыяе далейшай русіфікацыі насельніцтва.

Дадзеныя перапісу 1999 г. падцвердзілі, што беларуская нацыя існуе, жыве – 81 працэнт жыхароў назвалі сябе беларусамі і толькі 11 рускімі. Праўда, беларускую мову дома ўжываюць толькі 37 працэнтаў, ці 41 пр. беларусаў, а расейскую 63 пр., у тым ліку 59 пр. беларусаў. Думаю, што на рабоце яшчэ больш. Але гэта сведчыць аб тых вялізных маштабах расійскай асіміляцыі, якая ахапіла жыхароў Беларусі ў апошнія гады і дзесяцігоддзі. І гэта не віна людзей, а іх бяда, якую павінна была дапамагчы пераадолець наша ўлада, але зрабіла наадварот.

Вось чаму заканамернымі з'яўляюцца ўсе дзеянні ў падтрымку і абарону беларусчыны, нацыянальных інтарэсаў беларусаў. Такімі з'яўляюцца пасяджэнне Канстытуцыйнага Суда РБ 8 верасня на беларускай мове; нядзельныя набажэнствы кс. У.Завальнюка ў касцёле св. Сымона і Алены; каляднае набажэнства па-беларуску ў Менскім касцёле Дзевы Марыі біскупа кс. Кірыла, кардынала К. Свёнтака; выступы дэмакратычных і апазіцыйных партый і арганізацый, свядомых грамадзян. І ўлада таксама павінна дапамагаць і падтрымліваць усё беларускае, у першую чаргу мову.

***Міхась Пузіноўскі, г. Ашмяны.***

# Дарагі дружа!

**Калі твае веды ў беларускай мове пакуль невялікія, але ты жадаеш на прыстойным вусным і пісьмовым узроўні авалодаць спаконвечнай мовай гэтай, роднай нам зямлі, звяртайся ў Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны па адрасе:**

**220005, Менск, вул. Румянцава, 13.**

**Мы рады паведаміць, што сёлета пры ТБМ адкрываюца бясплатныя курсы па вывучэнні беларускай мовы, выкладаць на якіх будуць найлепшыя прафесіяналы.**

**Адукацыйная камісія ТБМ.**

# Не скрай дарогі, не з камення...



Юры Карэйва

## Скарына

Хлопчык здольны да навукі,
Сын купца Скарыны, ледзве
Свет спазнаў – знаў "аз" і "букі",
**"Азы, букі, ведзі..."**

Ведзі... Дзе той Храм у свеце?
Дзе ж да ўсіх тых Ведаў брама:
У Бібліі, ці ў альфабэце
З **"альфай, бэтай, гамай"**?..

Хто б яму да Храму тога
Дзверы адчыніў, даверыў
Браць бязмер з Добра Святога
**Веду, моц ды веру**?

І душу кранула нечым,
Працяло, як мечам гострым:
Перад ім стаў Крыж адвечны –
**Боль, пакута, роздум...**

Кажуць, што Сам Бог сыйходзе
У тых, што гэтак прагнуць ведаў,
І тады у людской гасподзе –
**Мудрасць, лад, асвета**.

Ды таго не распавесці,
Як жа здолець, якім чынам,
Крыж той на сабе панесці
За **свой род, народ, айчыну**.

Мо зжадаў, каб, як у раі,
З Тваёй, Божа, гожай славай
Кіравалі ў гэтым Краі
**Еднасць, людскасць, права**?

Але ж як Твайму народу,
Божа, даць Святое Слова,
Каб былі ў яго заўсёды
**Розум, воля, мова**?

І пайшоў шукаць дарогаў
З думкаю-Крыжом па свету,
Што жыве ў абраных Богам:
**Бог, Народ, Асвета**.

І з дарог тых – з Прагі й Вільні
Да нас дойдзе з ім, зноў знойдзем
Друкаваны спіс Біблійны
Цераз **дні, гады, стагоддзі**...

З чэскай мовы перакладзен
З літар тых, што колісь зглядзеў,
Божы Дар, дзе у слоў суладдзі –
**"Азы", "букі", "ведзі"**!...

Дар Святы, так шчодра зліты
Нам ад Бога, з рук Скарыны
Прыймай, просты, паспаліты
Люд сваёй Краіны!

Гэта – Вечны Скарб: ён сведчыць
Будзе у нас аб Боскім Цудзе,
Колькі б кат нас ні нявечыў –
**Быў ён, ёсць і будзе**!

Хоць пасюль пануе нечысць,
Чужаніц на нас аблава,
Будзе вечна учалавечваць
**Годнасць, Гонар, Славу**.

Між сыноў зямнога роду
**З Айцом Богам, Яго Сынам,**
**Святым Духам** сын народу,
Беларус – ФРАНЦЫСК
СКАРЫНА!

## Гайвораны

Старыя як свет гайвораны,
Як час, як легенда сівыя,
Ходзім па Краі спакораным,
Дым чорны нам вочы выеў.

Сляпыя як ноч гайвораны...
Ні свету, ні неба не трэба нам,
Нам небам самім гаворана,
Што свет гэты намі грэбуе!

Сваё мы даўно адлёталі,
Мы безліч гадоў тут лятуем,
Нас безліч у спёку й слотамі
Гіне і ў леты, і ў зімы,
Але не такія,
Як вы –
Як гэтыя,
Што выракліся Радзімы

## Мова

Мне мова –
Божым Словам,
Мне слова мовы – Бог!
Яго ад духа злога
Нам Госпад Бог збярог.

Мне слова –
Ад Скарыны,
Ад словаў тых яго,
Што злыдні не скарылі,
Не спапяліў агонь.

Таму яно – святое;
Яго нам
Бог слаў звыш.
Хто памятаў пра тое,
Той смела йшоў на крыж.

А хто зракаўся мовы,
Той кару ў тым знайшоў,
Праклёнам пяруновым
Даўно на дым сышоў.

Святое ж моцы мовы
Парушыць не змаглі,
Змагалі зноў і зноў –
І ўстала з тла,
з зямлі!

І слова з тла паўстала
І паміж нас жыло...
Ды зноў
Прыйшла навала
Звясці яго на тло.

Ізноў,
Мой Божа мілы,
Ліхі прадажнік – хам
Грукоча, што ёсць сілы,
У Святое Мовы Храм.

Ён здзекуецца з мовы,
Якое я служу,
Ён прагне
Чорным словам
Спаганіць мне душу.

Не чуе просьб, ні грозьбаў,
Што хмары шлюць з Нябёс.
Злюецца мае просьбы
З дажджом
Хрыстовых Слёз!

Мне Ён
З Пакутных Ранаў
Дашле Свайго Святла!..
Я Словам
На тыранаў
Паўстану
нават з тла!

## Беларус

Хто такі я – невядома,
Сам сабе я стаў ніхто,
Не патрэбны анікому,
Свету цэламу – і то!..

Ні Айчыны, ні радзімы,
Кажуць, у мяне няма,
А хто гіне без Радзімы –
Той загіне надарма.

Хто жыве так, той ня
помніць,
Той ня знае, ці жыве,
Ды й як жыць, калі так
томіць
Злюжня думка, душу рве:

Чым на здзекі для ўсялякіх
Сваю волю аддаваць,
Лепш пайду на крыж,
на плаху –
А сябе ня дам таптаць!

Хай усім я – сіраціна,
Ты, Радзіма, ты – прымі!,
Ды як роднага, як сына,
Хоць па смерці, абнімі!..

## Каменны бог

... І змоўкнуў каменны стод
Да часу Прыйсця Хрыстовага.
Час прыйдзе – І прыйдзе Хрыстос
Да тога каменнага стодзіва.

Час прыйдзе – І прыйдзе Хрыстос,
І зніме з яго знямогу,
Таму што шкадуе Хрыстос
Нават бажка нямога.

І скажа яму ажыць,
І здыме маўчання цяжар,
І скажа яму: "Кажы!",
Але ён нічога не скажа.

А ён назаўсёды змаўчыць,
Ён стане каменным знову,
Пачуўшы, што ўсё тут гучыць
Чужою, народнаю мовай...

## Мой Чорны Край...

З паэмы "Лера"

Мой Чорны Край!..
Чарнейшы ў свеце...
Над ім пануе ноч даўно:
Уночы зоркі ў ім не свецяць,
А ўдзень тут сонца не відно.

Жывуць у ім сляпыя людзі,
Нашто нам, кажуць, сонца, дзень,
Нашто нам зоркі, што набудзем
З таго, што выблісне прамень!

Яны самім сабе зрабілі
Цямнэчу, выклікалі ноч
Тым, што ні разу не адкрылі
На бляск святла жывога воч.

Не раз тут чулася, прарочы
Будзіў іх голас з цемры пут:
-- Прачніцеся! Пратры ж ты вочы!
Зірні на свет, пакутны люд!

Але пракокаў забівалі,
Слязьмі змывалі з плахаў крою
Ды зноў надоўга забывалі
Адчайных з цемрай змагароў.

Як ёсць, было – так вечна будзе,
Мне кажуць, цемры з нас не зняць.
Але ж адкуль, скажыце людзі,
Асляпленым, вам тое знаць?..

## Месія

Пайду куды?.. Я тут – чужы,
А нават горшы за чужога:
Распяццем хочуць на крыжы
Сабе пракласці Шлях да Бога!

Ратункам, а не карай звыш,
Каб стаў ім гэткі Шлях да Бога,
Сыйсці ад іх... але ж – праз Крыж...
Ды ж выбару няма другога...

Зноў фарысеі й святары
Адчайным лямантам сустрэлі...
О, змагары за свет стары,
Як вы з тым светам састарэлі!

Вам сапраўды, такім, няма
Пракокаў у сваёй айчыне!,
Айчына ў Небе... - тым Яна
Вам незручней ды немагчымей.

Не жыць вам, покуль не дасі
Сябе за ўсіх вас на Ахвяру...
О Авва Ойча!, пранясі
Смяротнае Ахвяры Чару!..

А зрэшты, воля будзь – Твая:
Будзь, Ойча, не як Сын Твой хоча,
Але – як Ты!.. Гатовы Я:
Прыймай Ахвяру,
Авва Ойча!

## То – Знак!

Санет

Калі на Крыж святой бажніцы
Свой першы промень пакладзе
Бляск гожай Божае Дзянніцы
Над гэтым Чорным Краем, дзе
Зноў спрэс пануюць чужаніцы,
Нябачным Ценем між людзей
Скірую крок свой да званіцы.
Апошнім енкам загудзе
Вячэўны Звон мой, з самых нетраў
Зямных узыйдзе стогн, і ветрам
Уздыме й скіне звонны зык
З Яго, знямоглага й нямога:
То Знак на скон вам ад самога Бога–
Са Звону вырваны язык!..

## Прарок

Прарок! Паэта! Ён – ад Бога!, -
Ня ведаючы хтось казаў,
Калі "прарок" той, па дарогах
Якіх блукае, й сам ня знаў.

Ён не шукаў сабе палёгкі
Ва ўхвалах гэткіх ад людзей,
Але й не бег у кут далёкі:
Ён жыў між іх, ён жыў... нідзе.

Хадзіў тут ледзьве значным ценем,
Быў між зняверцаў – разявяк
Як здань, як цень уночы ў цемень,
Як між магіл, між іх – мярцвяк...

Ды й Бог ні разу не з'яўляўся
У абшарпаных яго мурох,
Хоць бы слязьмі ён заліваўся
Ад смутку й болю хворых ног.

Як школьнік-двоечнік урокі,
Засвоіў дрэнна, ці былі
Багі якія ці прарокі
На гэтай грэшнае зямлі.

І грызучы скарынку хлеба,
А то й без хлеба кагадзе,
Не ведаў нават, як Бог з Неба
Глядзеў на гэта, ці глядзеў...

Калі змарнелы і змярцвелы –
Нібыта зняты кім з крыжа,
Над гэтым светам звар'яцелым
Сябе ён назіраць змушаў,

То адчуваў змаля-патроху
У сваёй збалелай галаве
Й душы разбітай: дзякуй Богу,
Яшчэ усё гэтак-сяк жыве!

Адно як вол ці раб зацяты
А ці то ўдзень, ці то ўначы,
А ці то ў будні, ці то ў святы
Ён працаваў, але ж над чым?..

Над зернем слоў на Божай Ніве.
Хоць марны плён з таго спажыў:
Калі дасць Бог – мо прыйдзе жнівень
Для нечае жывой душы!..

## Змагарам за Беларусь

Паміраюць крыніцы і дрэвы,
Нашы лёсы, як птушак чародкі,
Нішчаць чорных віхураў павевы
Разам з моваю нашых продкаў.

Памірае апошняя радасць,
Плача ў прыцемках матчына песня,
Але верма ў Святую Праўду –
У світальную, з песняю веснай!

Хоць нявечыць нас нечысць вякамі,
Ды не ўчуць тым астатні ўздых,
Што скугочуць між нас ваўкамі:
Час настане й не стане тут іх!

Мы адзіныя маем права
Тут застацца, каб вечна тут жыць,
І не стопча нага чужаніц
Гэтай яснай, як ява, праявы!

## Малітва да мамы

Маме маёй – вітанне...
Мама мая святая,
З Богам і Матанькай Божай
Поўная ласкі гожай,
Я да Цябе, благаслаўнай,
Зноў дасылаю сёння
У неба начное малітву.

Божай слязінкай праліта –
Знічкай з нябеснага раю
Ты на зямлю спазіраеш,
Дзе, наскрозь болем пракуты
За гэты Край пакутны,
Голас мой з горла сцякае,
Крывёю сцякае...
Святая.

Мама мая, памаліся,
Каб Усявышні злітваўся:
Смяротнай самоты часінаю
Згінуць не даў Твайму сыну.
А калі ж згінуць мне, Мама –
Хай да Цябе прыйме.
Амэн.

***

Святло паглынае цемра,
Жыццё забірае смерць,
Ад смерці ратуе вера:
Жывы толькі той, хто верыць.

Калі ж у цяжкую гадзіну
Згаслі надзеяў промні,
Не згінуў хто ўспомніў Радзіму
І Роднае Слова ўспомніў. –

Знявечаным душам зраненым
Заўсёды пад Боскім Крыжам
Давалі Яны адхланне:
Хто верыў – з Радзімаю выжыў!..

***

*Вось выйшаў сейбіт сеяць...*
*... І ўрадзіла плён: адно ў сто разоў, а другое ў шэсцьдзесят, а тое ў трыццаць.*
***Мц 13, 3 ... 8***

Не скрай дарогі,
Не з камення,
Не з церня
Узыйдзе і ўзрасце
Святое Сейва
Боскім Зернем.
Яго ні час,
Ні ліхадзей,
І ніякі злыдух
Не зможа
Знявечыць,
Знішчыць ці скрушыць...
Бо ёсць Паэта!
З волі Божай!
Ягонай іскраю душы
Праз леру
Боскаю прамене!
Ён Шлях
Не з церня пракладзе,
Не скрай дарогі,
Не з камення –
А з сэрцаў
Словам
прарасце!

# Вяртаючыся да калядаў

*Гэты матэрыял прыйшоў у рэдакцыю з некаторым спазненнем. І мы вагаліся, ці друкаваць яго. Але падыходы да адраджэння нацыянальнай культуры, што маюць месца ў Лінгвістычным універсітэце, падаліся нам цікавымі. Таму мы прапануем гэты допіс увазе чытачоў "Нашага слова".*

У студзені гэтага года ў Менскім дзяржаўным лінгвістычным універсітэце адбыліся Каляды. Адзначаліся яны ўрачыста. Пры ўдзеле выкладчыкаў і студэнтаў універсітэта. Магічны абрад калядавання прайшоў праз стагоддзі і захаваўся ў наш час, дзякуючы сваёй высакароднасці і багаццю абрадава-песеннага суправаджэння.

Сам тэрмін "каляда" паходзіць ад лацінскай назвы календы. У старажытных рымлян першы дзень кожнага месяца называўся календа. Усе календы святкаваліся, але асабліва ўрачыста адзначаліся календы навагоднія. Гэтая назва разам са святкаваннем у розныя часы і была засвоена славянскімі і неславянскімі народамі

Для ўсіх каляндарных народных святаў уласцівы рэлігійна-абрадавы сінкрэтызм, шчыльнае ўзаемапранікненне паганскай і хрысціянскай стыхіяў. У паганстве свята Калядаў было прысвечана зімоваму сонцавароту. З асаблівай павагай ставіўся беларус да сонца: яно давала жыццё ўсяму жывому на зямлі. "Адраджэнне" сонца – пачатак новага сонечнага, а разам з ім і аграрнага года. Так жыццё сонца мае пэўную цыклічнасць: яно нараджаецца, паступова дасягае сваёй найвышэйшай магутнасці, а потым павольна страчвае сваю моц і дае жыццё на зямлі. Каляды як праваслаўнае свята адзначаюцца на працягу двух тыдняў з 6 па 19 студзеня і ўключаюць фактычна тры святы: уласна Каляды (Божае Нараджэнне), Новы год і Вадохрышча.

Абрад калядавання – абход пераапранутымі калядоўнікамі хат сваіх аднавяскоўцаў з выкананнем абрадавых песень – змясціў у сабе і паганскія, і хрысціянскія ўяўленні. На чале каляднага гурта была зорка. У гэтым звычаі адлюстравалася вядомая хрысціянскае ўяўленне аб цудоўнай Віфліемскай зорцы, якая прывяла вандроўнікаў да месца, дзе нарадзіўся Ісус. Аднак цэнтральная маска абрадавага дзеяння – "каза". Гэта жывёла з часоў паганства лічылася сімвалам пладавітасці. Рытуальная смерць казы сімвалізавала сабой заканчэнне старога года, у якім павінны былі застацца хваробы, гаспадарчыя нястачы, непаразуменні, а адраджэнне было знакам пачатку года, пажаданнем гаспадарцы стаць моцнай, гаспадарам быць здаровымі і шчаслівымі і дачакацца добрых змен у годзе новым.

У МДЛУ святкаванне Калядаў з'яўляецца традыцыйным, бо дазваляе адчуць усім удзельнікам свята глыбіню, старажытнасць, духоўнасць, прыгожасць нашай культуры і нацыянальную годнасць. Рыхтавала гэта свята ва універсітэце кафедра беларускай мовы і літаратуры. Першакурснікі розных факультэтаў з радасцю склалі калядны гурт. Талент, артыстызм гэтых хлопцаў і дзяўчат уражвалі ўсіх, не пакідалі абыякавымі нікога. Калядоўнікі заходзілі да рэктара, у дэканаты, у вялікія і малыя аўдыторыі, дзе выконвалі абрад. Паўсюль чуліся цудоўныя, прыгожыя калядныя песні, напоўненыя сакральным зместам. Куды б ні заходзіў калядны гурт, усюды адбывалася сапраўднае свята, цяплынёй напаўняліся вочы, усмешкай асвятляўся твар. Пасля прывітання "каза" пачынала свае рытуальныя скокі: свавольнічала, біла капытамі, спрабавала калоцца рогамі, што выклікала адпаведную рэакцыю: радасць і жаданне ўдзельнічаць у магічным дзействе. І раптам "каза" валіцца на падлогу, калядоўнікі спрабуюць замовамі ажывіць яе, а ў гэты час клапатлівыя гаспадары выносяць пачастункі. І зноў гучыць калядная песня, падзякі. Светлы настрой запанаваў у душах удзельнікаў абрадавага дзеяння. У велічальна-віншавальнай песні гучыць падзяка і ўслаўленне гаспадароў, пажаданне плённай працы, дабрабыту, здароўя, шчасця.

Асабліва шчыра, ветліва, спагадліва сустракала калядоўнікаў рэктар універсітэта Н.П.Баранава, прарэктар Зубаў А.В., загадчыца вучэбнага аддзела Пакрышкіна І.Я., дэкан англійскага факультэта Н.А. Капачова, загадчык вайсковай кафедры В.І.Кастамараў, іншыя выкладчыкі і студэнты.

Цікава, якія пачуцці і думкі выклікалі Каляды ў супрацоўнікаў і студэнтаў універсітэта? Адказаць на гэтае пытанне нам дапамагло інтэрвію, якое мы ўзялі ў тых, хто ўдзельнічаў у свяце. Якой была рэакцыя рэктара МДЛУ у той момант, калі ў "хату" завіталі калядоўнікі?

- Прыемная нечаканасць! Усе праблемы на нейкі момант забыліся і самі сабой адышлі ўбок. Для мяне раптам знітавалася ўсё ў адно: мінулае і сучаснае, сучаснае і будучае, зямное і вечнае.

Артыстызм, самавыражэнне і талент, з якім выконваліся ўсе сакральныя дзействы, паланілі мяне. Пад уплывам нейкай магічнай сілы ўзнікла жаданне зліцца з імі ў адно адзінае цэлае... Мне падалося, што мала тых падарункаў, якія я падрыхтавала калядоўнікам, але ў добрай гаспадыні заўсёды ёсць нешта прыхаванае – пайшло ўсё: і цукеркі, і печыва, і мандарыны.

Пазней я адкрыла для сябе: наколькі важна не толькі ведаць і вывучаць традыцыі, абрады, наогул культуру беларускага народа, але і адчуваць, праяўляць сябе ў гэтым.

Звярнуліся мы і да дэкана англійскага факультэта Н.А.Капачовай.

- Ніна Андрэеўна, якія ўражанні засталіся ў Вас ад відовішча?

- Як дэкан, я вельмі рада, што студэнты англійскага факультэта праяўляюць цікавасць да нацыянальнай культуры і прымаюць актыўны ўдзел у святкаванні. Мяне прыемна здзівіла прыгожасць, артыстызм, талент студэнтаў – яны так дасканала перадалі дух звычаю.

Аднавіліся мае дзіцячыя ўражанні, настрой, шчымлівыя ўспаміны пра святкаванне Калядаў. Трэба аддаць належнае кафедры беларускай мовы і літаратуры, якая падтрымлівае ініцыятыву студэнтаў, прывівае любоў да роднай мовы, прыгожых беларускіх песень, захоўвае традыцыі нацыянальнай культуры.

Я ўпэўнена, што студэнты будуць перадаваць сваё майстэрства вучням і гэтым самым выхоўваць пачуццё нацыянальнай годнасці.

А што думаюць самі студэнты пра Каляды, мы вырашылі запытаць у першакурсніцы Алены Нупрэйчык, якая ішла на чале каляднага гурта.

- Маёй даўняй марай было стаць удзельніцай каляднага гурта, спяваць абрадавыя песні, бо так рабілі шмат тысячагоддзяў таму нашы продкі, укладаючы ў гэты абрад магічную сілу. Трэба працягваць народныя традыцыі. Вось мы, студэнты першага курса, і вырашылі пайсці калядаваць па нашай роднай "вёсцы" і яе ваколіцах, але не проста весяліць народ і выпрошваць у студэнтаў і выкладчыкаў пачастункі, а праводзіць абрад, пэўныя сакральныя дзействы, якія прыносяць шчасце і радасць гаспадарам. Мне давялося вадзіць рэй і першай заходзіць у "хаты" нашых "гаспадароў" і "гаспадынь", і ў мяне была магчымасць убачыць іх узрушаныя твары і, галоўнае... вочы. А вочы сапраўды былі розныя. Чыесьці збянтэжана хаваліся ад вестуноў шчасця, а чыесьці загараліся вясёлымі агеньчыкамі і ўзрадавана сустракалі калядоўнікаў. А мы спявалі, спявалі, спявалі... у нейкі момант я адчула, што вось гэта і ёсць шчасце, якім можна падзяліцца са сваімі сябрамі, суседзямі, з усім Сусветам, над якім выратавальным святлом свеціць калядная зорка, нясе ў пады ранак усім людзям свята і радасць.

Дзяўчаты-калядоўніцы выказалі сваё захапленне ад удзелу ў свяце. Першакурсніцы універсітэта Чарапан Т. і Нахашчык А. падзяліліся з намі сваімі ўражаннямі:

- Мы толькі ў гэтым годзе паступілі ва універсітэт і адразу трапілі ў калядны гурт. Мы лічым, што нам вельмі пашанцавала. Калядаваць у нашым універсітэце аказалася вельмі цікавай і вясёлай справай. Студэнты і выкладчыкі сустракалі калядоўнікаў вельмі добра, а асабліва цёплы прыём нас чакаў у рэктара. Ва універсітэце панаваў святочны настрой, усе пачыналі ўсміхацца, толькі пачуўшы калядныя песні, якія мы спявалі з вялікім задавальненнем. Добрыя ўражанні ад Калядаў застануцца ў нас надоўга. І мы спадзяёмся, што будзем калядаваць і ў наступным годзе.

- Што Вы думаеце пра традыцыю святкавання Калядаў, якая ўсталявалася ў Лінгвістычным універсітэце? – спыталі мы ў загадчыка кафедры беларускай мовы і літаратуры П.В. Васючэнкі.

- Штогод у гурце калядоўнікаў адбываецца пераемнасць – пад калядную зорку становяцца галасістыя, задзірыстыя першакурснікі. "Каляда" ад гэтага, безумоўна, выйграе.

- Але нязменнымі апекунамі-арганізатарамі "Калядаў" застаюцца нашы выкладчыкі. Без іх клопатаў, досведу і палымяных сэрцаў, думаю, і "Каляды" не спраўдзіліся б, і сонца на лета не павярнула б!

Мы ўпэўнены, што Каляды ў Лінгвістычным універсітэце будуць адбывацца кожны год, пры любым надвор'і, пры любых зменах у нашым грамадстве. Выкладчыкі і студэнты універсітэта з нецярплівасцю чакаюць Калядаў, бо гэта свята яшчэ раз дае нам магчымасць паглыбіцца ў духоўную скарбніцу нашага народа, адчуць нашу нацыянальную самасвядомасць, заручыцца падтрымкай свайго роду, сваіх продкаў, навучыцца шанаваць іх, трымаць повязь мінулага і сучаснага, бо, вядома, што без мінулага няма будучыні.

*Выкладчыкі кафедры беларускай мовы і літаратуры Менскага дзяржаўнага лінгвістычнага універсітэта*

*Кныш Ларыса Сяргееўна, Сігаева Святлана Аляксандраўна, Трухан Людміла Уладзіміраўна.*

# Званы праваслаўя

У нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь адкрылася выстава жывапісу "Званы праваслаўя". Аўтар --заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі Леанід Дударэнка прысвяціў яе 2000-годдзю хрысціянства. На палотнах мастака суседнічаюць сусветна вядомыя саборы і невялікія цэрквы, што прытуліліся ў гарах Каўказа. Выстава дае шырокае ўяўленне аб гісторыі праваслаўя.

**На здымку: мастак Леанід Дударэнка. Фота Яўгена Казюлі, БелТА.**



# Сузор'е талентаў

У Сянно прайшоў першы абласны агляд-конкурс сямейнай творчасці "Сузор'е талентаў", у якім удзельнічалі 39 сем'яў з 15 раёнаў Прыдзвінскага краю. Яны дэманстравалі ўменне ў традыцыйных народных рамёствах, выконвалі песні і музыку.

**На здымку: ганчар Уладзімір Бязрукаў з дачкой Аленай з Ушацкага Раёна. Фота Аляксандра Хітрова, БелТА.**



# Наш каляндар

## 9 лютага – 70 гадоў Валянціну Тарасу

Валянцін Яфімавіч Тарас нарадзіўся 9 лютага ў Менску ў сям'і мастака. "Шчаслівае" сталінскае дзяцінства раптам абарвала вайна. І ўжо ва ўжыванне ўваходзіць тэрмін "апаленае вайною дзяцінства". А дакладней кажучы, аднятая ёю ілюзорнасць. Хутка прыйшло сталенне. Трынаццацігадовы хлапчук ідзе ў партызаны і становіцца байцом атрада "За Савецкую Радзіму" Баранавіцкага злучэння. Узнагароджаны баявымі медалямі. Пасля вызвалення Беларусі ад нямецкіх войскаў у 1944 годзе вярнуўся ў Мінск і пайшоў працаваць, адначасова вучыцца ў вячэрняй школе рабочай моладзі. Далей вучоба ў Белдзяржуніверсітэце. У 1955 годзе заканчвае аддзяленне журналістыкі філалагічнага факультэта. Працяглы час працаваў у рэдакцыі газеты "Звязда", быў рэдактарам аддзела прозы часопіса "Нёман".

Творчай дзейнасцю пачаў займацца ў другой палове 40-х гадоў. Першыя вершы надрукаваў у 1948 годзе. Піша на беларускай і рускай мовах. Выдаў шэраг рускамоўных зборнікаў паэзіі. Па яго сцэнарыях пастаўлена некалькі дакументальных і мультыплікацыйных фільмаў, у тым ліку ў 1974 годзе пастаўлена тэлевізійная п'еса "Не пагасі свечку".

Валянцін Тарас шмат перакладае з беларускай на рускую мову. Яго намаганнямі пабачылі свет кнігі перакладаў У. Нядзведскага "Хлопцы из второго корпуса" (1966 г.), С.Гаўрусёва "Отправление в полёт" (1967) А.Платнера "Магазин игрушек" (1967) разам з Карласам Шэрманам здзейсніў пераклад рамана Гарсія Маркеса "Восень патрыярха".

У шматлікіх часопісах і зборніках былі надрукаваны пераклады паэзіі М.Танка, П.Броўкі, Е.Лось, У.Хадыкі, А. Бялевіча, А.Астрэйкі, Э. Агнецвет, Р.Барадуліна, А.Вярцінскага, Н. Гілевіча, С. Дзяргая, П. Макавея і іншых беларускіх паэтаў.

Акрамя гэтага на беларускай мове выступае ў перыядычным друку як крытык і перакладчык з расейскай мовы.

Рэдакцыя "Нашага слова" віншуе з юбілеем і зычыць творчага даўгалецця.

## 11 лютага – 65 гадоў Міколе Кусянкову

Мікалай Сяргеевіч Кусянкоў нарадзіўся ў 1935 годзе, 11 лютага ў вёсцы Перарост Добрушскага раёна Гомельскай вобласці ў сям'і настаўніка.

Шлях да літаратуры ў Мікалая Сяргеевіча быў складаны. У 1953 годзе ён закончыў Буда-Кашалёўскі лясны тэхнікум. Затым працаваў ляснічым у Калінінградскай вобласці, лесаўпарадчыкам на Беларусі і ў Сібіры.

Свой першы верш надрукаваў у 1955 годзе. За плячыма яго не толькі багаты жыццёвы вопыт, але і сталая адукацыя: факультэт журналістыкі Белдзяржуніверсітэта і вышэйшыя літаратурныя курсы пры Саюзе пісьменнікаў СССР. Пасля заканчэння курсаў у 1971 годзе займае пасаду намесніка адказнага сакратара абласной газеты "Гомельская праўда", з 1947 года – рэдактар дакументальных фільмаў на кінастудыі "Беларусьфільм", затым – намеснік галоўнага рэдактара выдавецтва "Мастацкая літаратура".

Сярод літаратурных здабыткаў Міколы Кусянкова кнігі паэзіі "Жывіца", "Без прывалу", "Дуброва", кніга прозы "Завязь".

*Язэп Палубятка*

## 16 лютага – 75 гадоў са дня нараджэння Івана Якаўлевіча Навуменка, беларускага пісьменніка, літаратуразнаўца, акадэміка АН Беларусі.



Іван Навуменка нарадзіўся 16 лютага 1925 года ў горадзе Васілевічы Рэчыцкага раёна Гомельскай вобласці ў сям'і чыгуначніка.

Вайну ён зведаў 15-ці гадовым юнаком. Прыняў самы актыўны ўдзел у супраціве акупантам. З восені 1941 года выступае як актыўны арганізатар і ўдзельнік падполля ў родным мястэчку, потым з'яўляецца разведчыкам дэсантнай групы, сувязным і байцом партызанскай брыгады. Вызваляе родныя Васілевічы. Спаўна зведаў Іван Навуменка смак салдацкага хлеба ды пазнаў дарогі вайны. У снежні 1943 года прызываецца да войска. Удзельнічае ў баях па Ленінградскім і 1-м Украінскім франтах. Прайшоў франтавымі дарогамі ад Карэльскага перашыйка да Усходняй Прусіі і Селезіі. У свае дваццаць гадоў ён займаў багаты жыццёвы досвед.

Мабілізаваўся ў снежні 1945 года і пачынае працу карэспандэнтам мазырскай абласной газеты "Бальшавік", адначасова вучыцца ў Белдзяржуніверсітэце, які закончыў у 1950 годзе. У 1954 годзе заканчвае аспірантуру пры БДУ і ўжо год працуе загадчыкам аддзела прозы рэдакцыі часопіса "Маладосць". Адзін толькі спіс навуковай і выкладчыцкай дзейнасці выклікае захапленне.

Іван Навуменка абараняе кандыдацкую і доктарскія дысертацыі. Выкладае беларускую савецкую літаратуру, загадвае кафедрай беларускай літаратуры ва універсітэце. Становіцца прафесарам і акадэмікам АН Беларусі. У 1973 годзе Іван Якаўлевіч узначаліў Інстытут літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук БССР.

Ён не толькі выдатны выкладчык, але і вядомы вучоны. Яго кнігі Купалу і Коласу ("Янка Купала. Духоўны воблік героя". 1967, "Якуб Колас. Духоўны воблік героя" 1968г.) сталі набыткам беларускага літаратуразнаўства і былі адзначаны дзяржаўнай прэміяй БССР імя Якуба Коласа.

Акрамя гэтага – Іван Навуменка пісьменнік.

Друкавацца стаў позна. Першыя апавяданні пабачылі свет у 1955 годзе, калі ён меў 30 гадоў. Неўзабаве выйшаў першы зборнік апавяданняў "Семнаццатай вясной" (1957г.), на наступны год "Хлопцы – равеснікі" і шэраг іншых.

У 1964 годзе свет пабачыла аповесць "Бульба", затым шэраг кніг аповесцей і апавяданняў "Тая самая зямля" (1971г.), "Падарожжа ў юнацтва" (1972 г.), "Замець жаўталісця" (1977 г.).

Чытачам добра вядомы раманы пісьменніка "Сасна пры дарозе" (1962г.), "Вецер у соснах" (1967 г.), "Сорак трэці" (1974 г.), "Смутак белых начэй" (часопіс "Полымя", 1979 г.).

Як зазначаюць крытыкі, эмацыянальны духоўны свет і досвед розных герояў твораў пісьменніка заўсёды мае багата агульных рысаў. Таксама ёсць многа агульнага і ў самой атмасферы яго твораў, і ў дэталях, якія спадарожнічаюць развіццю сюжэта. Нягледзячы на ўсё гэта чытач знаходзіць у кожным творы пісьменніка нешта новае, а гэта ўжо ёсць сведчанне таленту творца. Можна бясконца доўга даследаваць творы пісьменніка, але ўсё гэта будзе сцвярджаць тое, што Іван Навуменка – яркая творчая індывідуальнасць і след яго ў беларускай літаратуры значны.

Здароўя Вам, Іван Якаўлевіч, і творчых поспехаў.

*Язэп Палубятка.*



Шматвяковая гісторыя Берасця ад старажытнасці да сённяшніх дзён з дзяцінства займае і хвалюе Анастасію Фяцісаву, прысвяціўшую роднаму гораду мноства сваіх карцін, якія неаднаразова выстаўляліся, як у нас у краіне, так і за мяжой. Працуе Анастасія ў галіне мастацкага праектавання інтэр'ераў будынкаў манументальна-дэкаратыўнага і станковага жывапісу, яе работы можна знайсці ў мясцовым краязнаўчым музеі і музеі абароны Берасцейскай фартэцы.

**Фота Рамана Кабяка, БелТА.**

*Юры Грыбоўскі, студэнт БДУ, гісторык, IУ курс*

## НАШЫ "ЗУБРЫ" ПАД БРЫТАНСКІМ ШТАНДАРТАМ

Летась, у траўні мне давялося па справах быць у Варшаве. І неяк вечарам, пры шпацыры па вуліцах польскай сталіцы, маю ўвагу прыцягнула каляровая абвестка на слупе, дзе казалася, што на днях адбудзецца імпрэза, прымеркаваная да бітвы на Монтэ-Касіна, а таксама адкрыццё помніка палеглым жаўнерам II-га Польскага Корпуса, якія загінулі пад час баёў за гэты кляштар на Апенінскай паўвыспе.

Відавочна, што палякі шануюць памяць сваіх землякоў, якія паклалі свае галовы далёка за межамі Польшчы. Шануюць, нягледзячы на тое, што ў час "сацыялістычнага лагеру" вычыны польскіх вайскоўцаў, якія змагаліся з гітлерызмам у шэрагах войск заходніх хаўруснікаў, а не ў шыхтах прасавецкага Польскага войска, абміналіся ўвагай, замоўчваліся. Зараз колішнія жаўнеры корпуса Андэрса ганаруюцца першымі ўзнагародамі польскай дзяржавы і ўважаюцца за сапраўдных абаронцаў Радзімы.

Да жалю, у нас зусім наадварот. Мала хто з суайчыннікаў ведае пра тое, што сярод тых загінулых пад Монтэ-Касіна герояў шмат нашых землякоў (259 асоб). Менавіта ў II-м Польскім Корпусе на чале з генералам Уладыславам Андэрсам недзе каля чвэрці складалі беларусы. Асабліва гэта тычыцца 5-й Крэсавай дывізіі пяхоты (5КДП), дзе колькасць нашых землякоў была заўважнай. Гэтая вайсковая фармацыя была ўтворана напрыканцы 1941 года ў Аранбургскай вобласці з польскіх ваеннапалонных, якія знаходзіліся ў савецкіх лагерах яшчэ з верасня 1939-га. Згодна дамове СССР з польскім эміграцкім урадам у Лондане Уладыслава Сікорскага ў новаўтвораныя вайсковыя адзінкі мусілі мабілізоўвацца і былыя грамадзяне колішняй Польскай дзяржавы, якія былі дэпартаваныя ў аддаленыя куткі Савецкага Саюза пасля далучэння Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны. Безумоўна, ведаючы стракаты склад даваеннай Польшчы, а таксама працэс рэпрэсіяў савецкіх органаў у Заходняй Беларусі робіцца зразумелым, што не адны палякі трапілі ў высылку ці лагеры ваеннапалонных.

Гэткім чынам, як сведчаць некаторыя беларусы – былыя жаўнеры 5КДП сярод асабовага складу гэтай фармацыі нашы землякі складалі каля паловы. Сведкам маіх слоў можа быць той факт, што напрыканцы II Сусветнай вайны у рукі да шэрагоўцаў 5КДП трапляла выданне Рады БНР "Беларускія навіны". Асабліва самасвядомасць беларусаў па паходжанні набрала вагу, калі ў склад корпуса Андэрса былі ўключаны курсанты менскай афіцэрскай школы Беларускай Краёвай Абароны, пасля таго як ім удалося перайсці на бок Альянтаў. Зразумела, што польская дэфэнзіва пільна сачыла за тым, каб у складзе II-га Польскага Корпуса не было чутна праяваў вольнадумства ў асяроддзі жаўнераў. Паколькі палякі ўсялякімі сродкамі ігнаравалі беларускі рух, тым болей у собскіх вайсковых фармацыях, то нашы землякі, роўна як і ўкраінцы (іх было таксама нямала) не мелі магчымасці неяк вылучацца або засведчыць сваю прысутнасць у польскіх адзінках пад Брытанскай камандай. Толькі па сканчэнні вайны яшчэ ў Італіі адбыўся з'езд беларусаў-вайскоўцаў са складу корпуса Андэрса.

Беларусы ў шэрагах 5КДП прайшлі складаны баявы шлях. На працягу 1942 года апошні жаўнер арміі Андэрса пакінуў СССР. Наперадзе чакаў Іран, вартавая служба ў Іраку, пасля шкаленне ў Палестыне і кватараванне ў Егіпце... крываваяі славутая італьянская кампанія. Знаходзячыся ў авангардзе II Польскага корпуса, 5КДП мусіла браць удзел ува ўсіх найважкіх аперацыях і рэйдах войск заходніх хаўруснікаў, у тым ліку ў аваладанні істотнага нямецкага абарончага ўмацавання на Апенінскай паўвыспе, якое адчыняла браму на Рым. Пра гэта сведчаць надмагільныя надпісы імёнаў ураджэнцаў Беларусі. Свой баявы шлях 5КДП скончыла ў Вялікай Брытаніі, дзе разам з іншымі польскімі часткамі была расфармавана. Лёс беларусаў-жаўнераў гэтай фармацыі быў адрозным. Хто падаўся на Бацькаўшчыну, відаць, спадзяючыся, што іх там чакаюць як пераможцаў, а рэшта засталася ў эміграцыі, дзе потым сталася асяродкам ветэранскага беларускага руху на эміграцыі. Што тычыцца першых, то іх сапраўды чакалі ў БССР, толькі замест падзякі ўзнагародай стала высылка ў Казахстан і Сібір, як "ненайдзеных і класава раскладзеных буржуазным ладам жыцця". Брытанскім жа камандаваннем шмат хто з беларусаў са складу 5КДП быў ганараваны вышэйшымі вайсковымі ўзнагародамі Альянтаў, тым часам як Радзіма развітвалася кайданамі.

Часам у польскіх крыніцах 5-ую Крэсавую звалі дывізія "Зубры". Гэтая назва замацавалася за 5КДП, бо яе жаўнеры мелі нарукаўны знак: выява зубра ў жоўтым полі. Насамрэч, беларускія "Зубры" даказалі сваю годнасць і вартасць собскай крывёй, хоць і далёка ад Айчыны і пад чужымі штандартамі. Ім не сорамна за свае ўчынкі. Брыдка павінна быць нам - іх нашчадкам за тое, што аднабокава глядзелі (а іншыя і зараз глядзяць) на славутае мінулае Бацькаўшчыны.

# Давайце спяваць па-беларуску

## МОЙ КОНІК

Словы Янкі Насуты Музыка Яўгена Петрашэвіча

А - сяд-лаў я з та-бун-ка Ва - ра-но -га ска-кун -ка. Гэй, мой

ко - нік Ва - ра - нок Ка - пыт - ка - мі: цок, цок, -цок.

Асядлаў я з табунка
Варанога скакунка.
Гэй, мой конік Варанок
Капыткамі: цок, цок, цок.

Верхам сеў я на скаку
З вострай шабляй на баку.
Гэй, мой конік Варанок
Капыткамі: цок, цок, цок.

Так гарцую па двары,
Што зайздросцяць мне сябры.
Гэй, мой конік Варанок
Капыткамі: цок, цок, цок.

# Жывая кніга прыроды

**Для педагогаў дашкольных устаноў. Укладальнік Ірына Марачкіна**

## ЗІМА. ЛЮТЫ

Люты – апошні месяц зімы. У лютым вясна з зімою змагаюцца. Халодныя мяцеліі завірухі змяняюцца адлігамі. Плачуць ледзяшы...

Сонейка ўзнімаецца вышэй. Дзень прыбывае на дзве гадзіны.

У народзе гэты месяц называюць "бакагрэем". Сонца прыгравае, а ў цяні мароз за нос хапае...

Народная мудрасць гаворыць так: пытаецца люты, ці добра абуты.

### МЕСЯЦ ЛЮТЫ

У футра цёплае адзеты,
У валёнкі белыя абуты,
ішоў сваёй хадой сагрэты,
дрымучым лесам месяц люты.
Стаяла ночка, пёк мароз.
Парыпваў лёгка свежы снег.
А на плячах вандроўнік нёс
Вялізны поўны белы мех.
"Цікава, думаў люты-месяц, -
што ў гэты мех зіма паклала?"
каля пянька прыстаў у лесе
і развязаў мяшок памалу.
--У –у-ух, як змарылася без руху!
На волю мне! –
Тут люты чуе завіруху,
Яна з мяшка – як шугане!
І расхадзілася на волі,
Мяла, круціла, як магла, -
І агарнула лес і поле
Адна суцэльная імгла.
І заблудзіўся люты ў лесе
(яму паспачуваем мы),
ён доўгі час блукаў па снезе,
апошні, трэці сын зімы.

*Васіль Жуковіч.*

### ЗАВІРУХА

У бубны дахаў вецер б'е,
Грыміць па ім, звініць, пяе,
І спеў ліецца ўсё мацней, -
Гулянку справіў пан Падвей.
У бубны дахаў вецер б'е,
Грыміць па ім, звініць, пяе,
Па вулках вее дзікі хмель,
Гудзіць сп'янелая мяцель.
У бубны дахаў вецер б'е,
Грыміць па ім, звініць, пяе.

*Максім Багдановіч.*

### СІНІЧКА НА БАЛКОНЕ

Ранкам сон – салодкі самы.
Хто не выспаўся – бядак.
-Прагані сінічку, мама,
Вунь расцінькалася як...
А сінічка на балконе
Не сціхае: цінь ды цінь!
- То ж вясны пачатак, соня, -
Кажа маці, - Чуеш, сын?

*Галіна Каржанеўская*

### ЗІМА ЗЛУЕЦЦА

Люты – капрызны месяц: невядома, калі якое будзе надвор'е. Бывае пагодны адзін-другі дзянёк: днем сонечна, капае са стрэх. Дрэвы скідаюць з сябе снежаньскія коўдры і стаяць у чулай дрымоце. Навокал пахне смалою, карою дрэў, сырым снегам, здаецца – вясна.

А раптам з начы наляціць злосны вецер і скуголіць некалькі сутак ля вуглоў, шастае па страсе, брынкае аканіцамі, свішча ў голлі дрэў, завывае паміж будынін. Глянеш у акно: разгулялася мяцеліца, свету не відаць. Задзтьмуты дарогі, насыпаны гурбы вышэй платоў – ні прайсці, ні праехаць.

-Злуецца зіма, не хоча аддаваць свайго, - кажуць на такую гульню старыя людзі.

*Яўген Крамко.*

### КУРАЧКА

Выйшла курачка на снег,
Пагуляла трошкі.
Гэта ж гора, а не смех –
Босенькія ножкі.
Цыпка бегае па снезе,
Мёрзне з непрывычкі.
На адну нагу прысела:
- Дайце чаравічкі!

*Ларыса Геніюш*

### АБЛІВАХА

Абліваха! Абліваха!
Дождж узімку – гэта ж цуд!
Хто, скажыце мне, пад дахам
Хоць на міг уседзіць тут?!
Абліваха! Абліваха!
Ногі коўзаюць, хоць плач!
Каб не бразнуцца з размаху,
Кожны з нас цяпер – цыркач.

*Алег Мінкін*

### ЛЮТЫ

Ідзе па зямлі Люты і пытае ў кожнага, ці добра адзеты і абуты.

Зайшоў у сяло, пастукаўся да дзеда з бабай:

- Іду лютаваць! Сумёты намятаць! Дарогі засыпаць, усіх у хату заганяць. Люты я! Пытаю , ці ўсе добра адзеты і абуты?

- Усе, усе! – адказвае дзед. – У мяне кажух ёсць і валёнкі. У маёй бабы таксама кажух, і валёнкі, і цёплая хустка. І авечкі, і карова ў цёплых хлявах. Хату прызбаю асыпаў, дроў назапасіў... Ідзі, лютуй!

- Супакоіўся Люты і пайшоў у лес да лясных птушак і звяроў.

- О-го-го-го! – крычыць на ўвесь лес, аж рэха разлягаецца.

- Я лю-у-у-уты! Іду лютаваць! Сумёты намятаць! Дарогі засыпаць!

- А ў мяне цёплае дупло! Я накрыюся хвастом і буду спаць! Лютуй! – кажа вавёрачка.

- А я ў бярлозе лапу смакчу... - сапе скрозь сон мядзьведзь. – Лютуй сабе!

- А я ў нару схаваюся! – махнуў рудым хвастом ліс.

- Я ямачку ў снезе зраблю! – сказаў заяц. – Я цяпер беленькі, і ніхто мяне не прыкмеціць.

- А я не баюся ні марозу, ні завеі, я ў цёплай камізэльцы! – ціўкнуў снягір.

- Я падамся да ч-ч-чалавечага прытулку-у! застракатала сарока.

І ўсе звяры і птушкі пахаваліся. Хто ў нару, хто ў дупло, хто пад снег.

І што тут пачалося! Люты як падзьме – сумёты, як горы, вырастаюць. У маленькіх ялінак і сасонак толькі чубы з-пад снегу тарчаць. На рэчцы страляе лёд. А люты лютуе. То марозам прыцісне, то завеяй ў вочы сыпане.

Доўга лютаваў. Нарэшце стаміўся, лёг пад сасною адпачыць ды і заснуў. Спіць сабе Люты і не чуе бяды.

А сонейка выглянула з-за хмар, прыгрэла на сасне снег... І пачало з ледзяшоў капаць. Кап! Кап!

Выскачыла з дупла вавёрка і зацокала на ўвесь лес:

Спіць Люты! Спіць, не чуе,
Што вясна яму рыхтуе!

Выляцеў з дупла дзяцел і застукаў дзюбай: тэлеграму адбівае:

Спіць Люты! Спіць пад сас-ною.
А Са-ка-вік ужо за спі-ною!

А з ледзяшоў: кап! кап! кап!

Раптам – кап! – проста Лютаму на нос. Падхапіўся Люты, дзьмухнуў раз, другі завеяй, але сілы ўжо няма!

Чуе, Сакавік недалёка!

*Клаўдзія Каліна.*

### ПАДВЕЙ

Падвей – гэта той дух, які круціцца ў віхры. Ён насылае на людзей асаблівую хваробу, якая таксама называецца Падвеем: наляціць віхор на чалавека – і скруціць яму галаву набок, адніме мову, а то скурчыць руку ці нагу. Таму трэба ратавацца ад віхру. Калі ён круціцца, трэба паказваць яму кукіш: гэта Падвей не любіць і праймчыць бокам, не закрануўшы чалавека.

*З беларускай міфалогіі.*

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

***Заснавальнік:***
ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі:***
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
***Адрас рэдакцыі:***
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** ns@lida1.lingvo.grodno.by



***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 14. 02. 2000 г.
Наклад 3200 асобнікаў. Замова № 337
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 100 руб., 3 мес.- 300 руб.
***Кошт у розніцу:*** 30 руб.